 


# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 37 (1176) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 10 ВЕРАСНЯ 1978 г. ЦАНА 60 гр.




*Рака Нарва каля вёскі Бяндзюга, якраз у тым месцы, дзе калісьці тутэйшыя арэлі вязалі дрэва ў пасы.*

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

## Бяндзюга

Вядома, праўдзівае краязнаўства — гэта не слізганне ў мяккіх тапачках па наваскаваных да бляску паркетах музеяў, выставак ці палацовых залаў, але перш за ўсё вандроўка па такіх сцежках-дарожках, дзе не то што „волга“, нават „лазік“ не праб'ецца і трэба ісці пешшу, і наведанне такіх мясцін, у якіх вас сустрэне звонкім і рознагалосым „дзень добры“ грамадка шустрай басаногай дзетвары, а дзядок-старэча папросіць сесці на мураве пад цяністым берастам і павядзе гутарку пра даўняе, колішняе, дзіўнае, ні то быўшае на самай справе, ні то паўстаўшае толькі ў яго ўяўленні, застываючым ужо пад холадам паважнай сівізны. І калі хто жадае якраз такіх сустрэч з родным краем, раю яму наведаць **Бяндзюгу** — мясціну над ракою Нарвай. Можна туды трапіць едучы па шашы з Міхалова ў Нараўку, каля аздобленых меражкаванымі фартушкамі-ахвярамі крыжоў перад вёскай Сушча трэба павярнуць направа і ў якіх двух кіламетрах, справа, вы ўбачыце першую з чатырох яе частак — **Ясёў Груд**, а далей пойдуць **Бяндзюга, Супруны** і **Каляное.**

Здаўна хадзіў па гэтых панарвянскіх ваколіцах чалавек. З надрэчных выдмаў, у тым ліку і сыпучай **Гострай горкі**, раз-пораз на паверхні, выveяныя ветрамі ды выпаласканыя водамі, паблісквaюць нейкія таямнічыя кавалкі крэменю. Мо гэта вастрыі стрэлаў, скрабачкі, нажы і іншыя прылады людзей каменнага веку? Цяперашняму вяночку вёсак: Гаранды — Брушкоўшчына — Адрынкі — Мацейкава Гара — Супруны — Ясёў Груд — Сушча, што сядзяць на правым берагу ракі, ад мястэчка Нарвы пачаўшы і на колішняй пераправе цераз раку ў Сушчы закончыўшы, дала пачатак рака і старадаўні шлях, які віўся сюдою з падляшскіх гарадоў у колішнюю Чорную Русь. Нейкі след свае бытнасці тут пакінулі балтыйскія плямёны: назва „Бяндзюга“ паходзіць ад літоўскага „bedugnybe“ — бездань, вялікая глыбіня; назву палетка „Лісанка“ выводзіць трэба таксама з балтыйскіх моваў, бо ў латышскай „lęsa“ — гэта: 1. балоцістае дрыгвястае месца; 2. песчаны плёс у рацэ; 3. плывучы востраў; тое самае неабходна заўважыць пра назву палетка „Палец“, якая бярэ свой пачатак не ад нашага пальца рукі ці нагі, але ад літоўскага „palejys“ — 1. бераг ракі, 2. даліна. Аднак аснова пераважнай большасці мясцовых назваў тут беларуская, нашая, не цяжка ў гэтым пераканацца: **Багон, Барсукі, Бярозаў Груд, Бярэзіна, Васькова Даліна, Выгалак, Гароды, Грудок, Галізна, Дрыгун** (праўдападобна, тут пахаваны быў колішні кавалерыст, драгун), **Кут, Кругляк, Касацкі Лужок, Лужок, Марынка, Навіны, Пудбагонне, Пудрэчча, Смольня** (калісьці там знаходзілася смалярня), **Цупаль.** Цікава, што раку Нарву зверху па цячэнню да сутокі з ракой Нараўкай называюць

**(Працяг на стар. 4)**

## Можна жыць!

Праз адчыненыя вокны разносілася на панадворку звычайная святочная мітусня. Канчаўся парны ліпеньскі дзень. Субота, 28 ліпеня 1978 года. Вячэрні халадок прыносіў палёгку ад цэладзённай жары. Уладзімір Якубюк выйшаў з хаты, каб праветрыцца і закурыць.

— Весела сёння ў вас у Грэдалях, — звярнуўся я да яго.

— А чаму ж нам не весяліцца, — адказаў селянін, — калі мы добра папрацавалі і нядрэнна зарабілі?! Чалавек заўсёды цешыцца, калі бачыць вынікі сваёй працы.

У гэты дзень грэдалёўцы спраўлялі ў сябе **трускалкавыя дажынкі.** Пра такія чуў я ўпершыню. Ведаў, што раней гэтая вёска праславілася на ўсё наваколле па вырабу цудоўных саламянак, якія сваёй непаўторнай прыгажосцю здзіўлялі многіх замежных купцоў. Даводзілася таксама бываць мне на багатых святкаваннях з нагоды „падсумавання“ працы грэдалёўскіх ткачых, чуў пра грамадскую актыўнасць жыхароў гэтай вёскі... Але трускалкавыя дажынкі...

Адным з найбольш актыўных арганізатараў гэтай грамадскай актыўнасці ў Грэдалях з'яўляецца менавіта Уладзімір Якубюк — сакратар партыйнай арганізацыі і дбайны, добры гаспадар.

Калі пра яго згаварыліся мы ў гмінным упраўленні, сакратар гміннага камітэта партыі ў Орлі Яўгеній Леўчук падсунуў мне пад нос спісак самых лепшых гаспадароў Арлянскай гміны, перш за ўсё тых, у якіх вартасць гадавой прадукцыі перавышала ў мінулым годзе 200 тысяч злотых. Справа важная, бо ад вартасці прадукцыі залежыць вышыня будучай пенсіі, а таксама гэтая ж вартасць вызначае ўзровень гаспадарнасці ўсёй гміны. Уладзімір Якубюк займаў на гэтым спіску адно з першых месц.

— Раскажыце, калі ласка, — прашу яго, — пра сябе і пра сваю вёску.

— Аб чым тут расказваць? — пачаў гаспадар. — Вёска наша невялікая, налічвае ледзь 30 гаспадароў. Жывем далёка ад усялякіх гарадскіх цэнтраў. Адно толькі чыгуначная дарога і вельмі ненадзейная аўтобусная камунікацыя звязваюць нас неяк з акружаючым светам. Дык жывем і займаемся ўласнымі, сялянскімі справамі.

— Якія гэта справы?

— Як і ў іншых вёсках: апрацоўка зямлі і жывёлагадоўля. Вось нядаўна адбыўся ў нас партыйны сход нашай арганізацыі. Гаварылі мы аб рамонце вясковых дарог, каб у жніво фуры нам са збожжам не вываpочваліся, каб без перашкод можна было дабрацца ў поле з усялякай тэхнікай. То ж цяпер не тое, што было даўней, у час майго дзяцінства, калі ўкінуў гаспадар плуг і

Працяг на стар. 4

Новыя вершы

## Высокі дух

*Ні лекамі, ні зеллем прываротным*
*Ніхто сябе не зробіць бессмяротным,*
*Ніхто не пражыве адзін за двух.*
*Стаць несмяротным можа толькі дух,*
*Высокі, чысты, светлы і сумленны,*
*Без мітусні, без пахвальбы, без пены,*
*Што асядае плямкаю густой*
*На мутным дне пасудзіны пустой.*
*Высокі дух — парыў самааддачы,*
*Перад сабою ставіць звышзадачы,*
*А ўсё, што шчодра аддае другім,*
*Не лічыць на пазыкі і даўгі,*
*Калі ж няпраўда муляе ў душы,*
*Смялейшаму не шэпча: „Ты скажы“.*
*Высокі дух, і на крыжы распяты,*
*Сабе не просіць літасці у ката.*
*Жыць, каб агонь у сэрцы не патух,*
*Дапамагае несмяротны дух.*
*Як сплаў адвагі, мудрасці, сумлення*
*Ён дойдзе да наступных пакаленняў.*

**Сяргей Грахоўскі**

ГМІННЫЯ НАВІНЫ

## Бацькі ў полі, а дзеці...

У час сёлетняга жніва ў Кляшчэлеўскай гміне дзейнічалі тры сезонныя дзяцінцы і мініяслі: два з іх і яслі ў прадшколлі ў Кляшчэлях і адзін у школе ў Дашах. У Кляшчэлях займалася ў дзяцінцы 45 дзяцей. Наймалодшаму з іх было 3 годзікі, найстарэйшаму — 9. Усім было дастаткова цацак і рознага абсталявання для гульняў і адпачынку. Добрае харчаванне. Пра ўсё клапацілася кіраўніча прадшколля Леаніла Смалікоўская і выхавацельніцы.

У дашаўскім дзяцінцы знайшло сабе апеку 22 дзяцей. Мясцовы СКР купіў ім надзьмуўныя матрацы. Раней тут была пабудавана пляцоўка для дзіцячых гульняў. Дзеці вельмі ахвотна прыходзілі на школьную пляцоўку, дзе сустракала іх настаўніца Таіса Голуб. Пасля абеда яны вярталіся дадому вясёлыя і задаволеныя.

**(Працяг на стар. 4)**



*Калі мама і тата працуюць... Дзеці работнікаў ПОМ у Дуброве Беластоцкай.* *Фота В. Рудчыка*

 

ДА 150-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ



# Леў Талстой

Нарадзіўся 9 верасня 1828 года ў маёнтку Ясная Паляна Тульскай губерні. Тут, сярод простай сярэднярускай прыроды, і прайшло ў асноўным яго вялікае жыццё.

„Без сваёй Яснай Паляны я цяжка магу сабе ўявіць Расію і мае адносіны да яе, — пісаў развітваючыся з роднай сялібай. — Без Яснай Паляны я, магчыма, ясней убачу агульныя законы неабходныя для маёй Бацькаўшчыны, але я не буду да прадузятасці любіць яе“.

Талстой пісаць пачаў амаль выпадкова. Быццам адплачваючы за няўдачы ў практычнай дзейнасці. Нават будучы ўжо аўтарам „Вайны і міру“ і „Ганны Карэнінай“, адступаўся ад пісьменніцтва, заяўляючы, што яно не найважнейшае ў жыцці чалавека. Араў зямлю, сеяў, касіў, рабіў печы, шыў боты. Знакаміты граф рабіў тое, што і сяляне, якія жылі ў Яснай Паляне.

Талстой хацеў быць з народам. Даказваў сваю гатоўнасць дзяліць з ім радасць і гора. Ён пісаў, часам прымушаючы сябе да пісання, а то і адмаўляючыся ад напісанага. Ён баяўся паказаць сябе смешным у вачах народа, займаючыся пісаннем. Адмовіцца ж ад пісання не змог.

Уся творчасць Талстога — праверка шчырасці сваіх практычных намераў. З гэтага ён і пачынаецца як пісьменнік. У выніку шчырасць становіцца асновай усёй яго мастацкай сістэмы.

Жыццё Талстога і яго творчасць быццам адзіная задума. Здзіўляе яна сваёй грандыёзнасцю і смеласцю, верай і веданнем чалавека і чалавечнасці.

Талстой не ставіць чалавеку ніякіх абстрактных правілаў, апрача абавязковага для ўсіх нас правіла быць чалавекам у любых абставінах. Прастата, шчырасць, праўда жыцця Наташы Растовай і Марыі Балконскай, духоўная, грамадзянская патрабавальнасць да сябе П'ера Бязухава і Андрэя Балконскага абяцае немінучую перамогу над злом.

Навучанне Талстога не вяжа чалавека, у яго свабода выбару, бо прабуджэнне ў ім жадання дзейнічаць у згодзе са сваім прызначэннем дае яму праўдзівую чалавечую ініцыятыву. Яна ж павінна імкнуцца да дабра.

Талстой хацеў даказаць ажыццявімасць свайго плана на вопыце ўласнага жыцця. Па яго словах, „лягчэй напісаць 10 тамоў філасофіі, чым ужыць які-небудзь адзін пачатак у практыцы“.

Гэтыя доказы, якія зацягнуліся на дзесяткі год, далі свету геніяльныя раманы („Вайна і мір“ і „Ганна Карэніна“), але і прывялі да вялікага крызісу ў яго духоўным развіцці.

Найвышэйшую мэту бачыў Талстой у яднанні і самаўдасканаленні людзей праз адмаўленне „служыць злу“. Многія працы і творы яго ставяць праблемы насілля, войнаў, рэлігіі, пытанні маралі, сям'і, жыцця і смерці. У іх свет душы вялікага пісьменніка, яго пошукі, хістанні, раскаянні, надзеі, яго бясконцая вера ў перамогу дабра і справядлівасці.

(Працяг на стар. 4)

НАШЫ САМАДЗЕЙНІКІ

# Гарадок

Усё пачалося ад конкурсаў вясковага чытання, ад чацвяргоў канца 1953 года. Чвэрць стагоддзя... Хто з іх думаў дваццаць пяць год таму назад, што перад імі шлях у чароўны свет песні... От, проста, збіраліся і чыталі, дэкламавалі. Адным словам, наладжвалі вечары чытання ўголас. Прыходзіла васемнаццаць асоб. Але ўжо тады пачалі хадзіць пра іх першыя слухі. Чытанне, відаць, было даволі „гучнае“, калі ведалі ўжо аб іх нават у Варшаве. Набліжаўся Дзень Жанчын 1954 года. І тады Ніна Мушынская паддала думку, каб наладзіць акадэмію і даць першае выступленне. Прапанову прынялі ахвотна. Апрацавалі праграму. Да выступлення патрэбныя аднак былі строі. Хацелася ж, каб як найлепш, каб зрабіць уражанне. З дапамогай прыйшоў, яшчэ тады павятовы, аддзел „Самапомачы хлопскай“. І так восьмае сакавіка з'яўляецца тым памятным днём, калі гарадоцкія самадзейнікі сталі на ногі і зрабілі свой першы крок. За дапамогу з боку „Самапомачы хлопскай“ калектыў абяцаў выступіць дваццаць трэцяга сакавіка таго ж года на аглядзе, які рыхтавалі ў зале ТІПРу ў Беластоку. Вялікае хваляванне — удасца ці не? Яны ж толькі што сталі на ногі. Ці змогуць прайсці роўна? Беласток — горад ваяводскі. Зусім іншыя слухачы, большыя вымаганні. Што яшчэ за калектывы прымуць удзел? Калі ўжо аж у Беластоку, дык, несумненна, з добрай падрыхтоўкай. Але наступны крок, зроблены за межы свайго панадворка, быў цвёрды. Вярнуліся пераможцамі. За першае месца, якое заваявалі, атрымалі ва ўзнагароду сцяжок, акардэон і матэрыял на вопратку для калектыву. І з той пары пачалося. Розныя паездкі, выступленні. Было нават так, што некалькі тыдняў падрад, дзень у дзень, давалі канцэрты ў вёсках і гарадах нашага ваяводства. Днём працуюць, бо ўсё ж яны маюць сваё прыватнае жыццё — дом, сям'я, а вечарамі выязджалі. Цешыў той факт, што ўсюды спатыкалі іх цёпла і шчыра. Наймацнейшым, а заадно і найбольш памятным момантам у жыцці тады яшчэ зусім маладога калектыву быў дзень восьмага сакавіка 1955 года. Ліга жанчын запрасіла іх выступіць у тэатры імя Вянгеркі ў Беластоку. Мелі ўсяго толькі год, а тут трэба выступаць перад сапраўднымі акцёрамі, перад прафесіяналамі, маючымі за сабою некалькігадовую адпаведную падрыхтоўку і вопыт. Як тут не хвалявацца, як не перажываць! Выйшлі на сцэну. І калі прагучала „Уральская рабінушка“, якой адкрылі праграму, ведалі ўжо, што поўнасцю заваявалі ўвагу слухачоў, што перамога на іх баку. Гэта дадало калектыву яшчэ большай бадзёрасці. З кожным закончаным выступленнем расла ахвота да наступнага.

Многа трэба было б пералічваць, каб поўнасцю паказаць шлях гарадоцкіх самадзейнікаў. Гэта ж ужо штосьці звыш сямісот выступленняў. Дзе яны і не былі, дзе іх і не чулі — Варшава, Сопат, Алецка, Кольна, Люблін, Гданьск. Два разы выступалі ў Савецкім Саюзе, чатыры разы на стадыёне Дзесяцігоддзя ў Варшаве ў час цэнтральных дажынак. Хто не ведае Ніны Мушынскай, яе энергічнасці і акцёрскага таленту, хто не памятае Сцяпана Зенюка і Аляксандры Яроцкай, каму не запомніліся надоўга цудоўныя галасы Ніны Цыванюк, Галіны Кот, Ірэны Паўлючук і многіх іншых... Яны тут акцёры, спевакі, паэты. Знаюць іх і з песенных і з тэатральных аглядаў. Некаторыя адыйшлі, прыйшлі новыя.



*Гарадоцкія самадзейнікі з канцэртам у Гданьску.*

— Прайшло звыш 120 асоб, — успамінае Ніна Мушынская. — Не прымеш жа абы-каго. Кожнага трэба праслухаць — што за дыкцыя, які голас. Так, будзе ўжо звыш 120 асоб.

Тут ужо традыцыя. Тут ужо моцна закараніліся песня і тэатр. Тут ужо іх правы. Не раз і цяжкавата. Усе ж яны працуюць. Прыйдзе нядзеля, дык добра было б і адпачыць, але як толькі трэба ехаць, едуць без слова супраціўлення.

Маё першае знаёмства з гарадоцкім калектывам адбылося ў 1972 годзе. Як сёння, памятаю запоўненую студэнтамі і выкладчыкамі залу ў Інстытуце русіцыстыкі ў Варшаве. Толькі што закончылася сесія з нагоды 90-ай гадавіны з дня нараджэння Я. Купалы і Я. Коласа і на зусім правізарычную, падрыхтаваную на хуткую руку, сцэну ўвайшлі гарадоцкія акцёры. Ставілі „Адвечную песню“ Я. Купалы. Зала, як зачараваная, быццам бы ў гіпнозе. Некаторым і не ўсё яснае, не ўсе ж з прысутных ведалі беларускую мову, але ўсе як адзін зорка сачылі за кожным рухам, за кожным жэстам. Цудоўная ігра. Праз некалькі год, сустрэўшыся з Нінай Мушынскай, успомніў я ёй аб гэтым, і яна мне сказала: „Каб вы ведалі, як мы хваляваліся. Хто іх там ведае, гэтых студэнтаў! Як да іх трапіць, як дагадзіць іх патрабаванням?“

Гарадок... Хопіць толькі пачуць гэтае слова, і той, хто хоць раз чуў іх спеў ці глядзеў пастаноўку, пачуе ў душы прыемную лёгкасць. Успомняцца пачутыя некалі песні, цудоўныя жаночыя галасы, што накладаюцца на акорды гармоніка, мастацка вычараваныя акампаніятарам Сцяпанам Копай. А ўсё пачалося ад конкурсаў дваццаць пяць год таму назад, ад простых конкурсаў вясковага чытання.

**Міхась Шаховіч**

Фота Міхася Хмялеўскага

З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ. ДЭМАНАЛОГІЯ




Немагчымасць поўнага зразумення некаторых неспрыяльных чалавеку з'яў, была, як мы ўжо адзначалі ў папярэдніх, прысвечаных дэманалогіі адрэзках, прычынай пастаяннага засялення меж людскога ўяўлення дэманічнымі істотамі — творамі ўласнай фантазіі. Усялякія эпідэміі, стыхійныя няшчасці ці парушэнні псіхічнай раўнавагі былі, згодна з перакананнямі, вынікам уздзеяння д'ябальскай сілы. Вераперакананне адносна дуалістычнай пабудовы свету даводзіць нават да ўзнікання на гэтую тэму прац, у якім гэтае пазаземскае існаванне з'яўляецца рэальным. Доказам гэтага могуць быць працы Ёгана Вайгэра з XVI стагоддзя, у якіх прыводзіць падлік жыхароў пякельнага каралеўства. Паводле яго налічвае яно 6666 д'ябальскіх легіёнаў, а ў кожным з іх па 6666 чартоў.

Найменшыя спробы ўтрымоўвання сувязей з д'ябальскай сілай, а лічылі імі не толькі чараўніцтва, але нават навукова-адкрыўчую дзейнасць, якая была некарыснай, востра праследаваліся. У свой час адбывалася пастаянная нагонка на ўсіх тых, каго падазравалі ў гэткай дзейнасці. Даходзіла да страшнай разні, публічнага спальвання на кастры. Асабліва частым было гэта на Захадзе. Няраз была гэта толькі прычына і заадно нагода для вырашэння ўласных спраў. Хопіць успомніць толькі крывавае шаленства ў Аррас у 1459 годзе, дзе ахвярай крывавай пагоні ў выніку ўзаемаабвінавачання лёг амаль цэлы горад. Пачаткам аднак галоўнага перыяду панічнага страху перад чараўніцамі можна прыняць 1490 год, год выдання вядомага трактата „Маллеус Мелефікарум“, інакш „Молат на чараўніцы“. Аўтар даказвае ў ім, што д'ябал захацеў заняць месца бога на зямлі і ў сувязі з гэтым заснаваў там сваё падполле з чараўніц. Трактат гэты прыводзіць адначасова шматлікія мясцовыя забабоны і нібы-факты, якія апісваюць спробы падпісання дагавораў паміж богам і чортам. Апрача гэтага дае метады змагання з чартоўскім падполлем. Падлікі, несумненна, далёка недакладныя, гавораць, што ў XVI і XVII стагоддзях, у выніку эпідэміі змагання з чарцямі, было ў Еўропе каля 750 тысяч ахвяр. Найбольш крывавым быў аднак пачатак XVII ст., калі была ўведзена багатая разнастайнасць прылад катавання, прыкладна: распаленае ў агні жалезнае крэсла, жалезны бот, разагрэты да чырвані, рама для ламання ног. Хваля праследаванняў і самасудаў пратрывала даволі доўга, а асабліва ў вясковым асяроддзі. Аднатоўваюцца выпадкі яшчэ нават у канцы XIX стагоддзя.

Дэманічныя сілы ў залежнасці ад характару іх дзейнасці і прызначэння, дзяліліся на некалькі груп. Загляньма ў „Людовую культуру славян“ Машынскага. Уводзіць ён наступны падзел дэманічных істот: 1) няшкодныя страхі і мары, якімі з'яўляюцца душы неспадзявана памёршых, 2) істоты паўдэманічныя — чараўніцы, ведзьмакі, вампіры, 3) хатнія дэманы апякунчага характару, 4) дэманы лёсу і 5) дэманы хвароб і смерці.

Дэманічныя істоты заўсёды прадстаўляюцца агідна брыдкімі і страшнымі з той мэтай, каб абудзіць у чалавека страх перад утрымоўваннем з імі сувязей. Бытавала перакананне, што злая сіла, каб авалодаць душой чалавека, зробіць усё. Дасць яму на пачатку багацце, запэўніць дабрабыт. І няраз з увагі на гэта, людзі з вялікім незадавальненнем і супраціўленнямі прымалі ўсё новае. А падтрымкі гэтага шукалі ў сібілійскіх кнігах. Асабліва на вёсцы. Яшчэ параўнальна так нядаўна лічылі чартоўскай выдумкай тэлевізар, не гаворачы ўжо пра пастаянныя змены ў модзе. Несеныя часам змены, катаклізмы, войны былі ў перакананні людзей

Працяг на стар. 4

 

(Працяг са стар. 1)




драўляную барану на воз, ды паплёўся ў поле.

Ён замоўк на хвіліну, каб прыкурыць чарговую папяросу.

— Зрэшты, што тут раўняць! Я цяпер гадую кожны год нейкіх 10 штук кароў і амаль 20 штук свіней. А зямля тая самая. Кожны дзень адвожу ў злеўню па 50 літраў малака...

Хто любіць лічыць чужыя грошы, хай гэтыя літры пералічыць на залатоўкі, хай да таго яшчэ даложыць суму за 8 здадзеных кормнікаў, за два добра адкормленыя бычкі, ды ўсё гэта разам раздзеліць на 12 месяцаў у год... Да ўсяго гэтага дадаць яшчэ трэба даход ад збожжа.

— Добры сёлета ўраджай! — з захапленнем сцвярджае сакратар Уладзімір Якубюк. — Толькі каб сабраць яго паспяхова!

Каб сабраць яго паспяхова, партыйная арганізацыя апрацавала ў Грэдалях аптымальны план выкарыстання сельскагаспадарчай тэхнікі. Між іншым, член гэтай арганізацыі Лявон Філянюк падпісаў з арлянскай спулдзельняй сельскагаспадарчых гурткоў умову на выкарыстанне эскаэраўскай снопавязалкі на палях у іншых сялян у Грэдалях і ў суседніх вёсках.

— У мінулым годзе, — кажа Якубюк, — ён на гэтай снопавязалцы і сваім трактарам выкасіў два разы столькі, што трактарыст з эскаэру.

Ад хаты пачуўся чыйсьці голас:

— Валодзька, дзе ж ты прапаў?!

Прыйшлося вяртацца да кампаніі, дзе грэдалёўцы спраўлялі гэтыя трускалкавыя дажынкі. Зусім нядаўна спрабавалі яны вырошчваць у сябе гэтыя ягады. Спярша нямнога, на пробу, а пасля... Павел Яканюк, Ян Шурбак, Сцяпан Лукашук і ён — Уладзімір Якубюк дайшлі ўжо да паўгектаровых плантацый.

— Паглядзіце, — паказвае мне квітанцыю Уладзімір Якубюк. — У гэтым годзе за трускалкі ўзяў я 50 тысяч злотых.

Не зайздрошчу яму гэтых тысяч, бо ведаю, колькі тысяч паклонаў па некалькі разоў у год трэба адбіць на трускалкавым полі, каб вырасціць і сабраць ураджай.

— Дзеці шмат нам дапамаглі, — гаворыць гаспадар.

Толькі дзеці ў горадзе. Дзве дочкі яшчэ вучацца, а сын і старэйшая дачка працуюць у Бельску.

— Няма што наракаць! — заяўляе мой грэдалёўскі сябра. — Можна жыць!

Задумаўся я над гэтым. Сапраўды, жыць можна — толькі трэба любіць працу, шанаваць калектыў і дружыць у сям'і. Тады безумоўна можна жыць, ды спяваючы ў час вясёлага святкавання дажынак.

**Віктар Рудчык**

(Працяг са стар. 3)

# ПАДСУМАВАННЕ

нічым іншым, як вынікам дзейнасці сатаны.

Гаварылі мы ў папярэдніх адрэзках пра дуалізм у дэманалогіі. Дуалізм гэты апіраецца на дзвюх плоскасцях — этычных поглядах з аднаго боку і эстэтычных з другога. Яны так, як перасцерагальныя знакі перад парушэннем акрэсленых грамадскіх норм.

Прыведзеныя намі ў цыкле дэманалогіі рэшткі вераперакананння людзей з'яўляюцца доказам таго, як моцна закаранілася ў народзе дэманалогія. Зразумела, гэта яшчэ далёка не ўсё і заканчэнне гэтага цыкла не абазначае, што не будзем больш сюды вяртацца. Апошняе проста выплывае пры каляндарнай ці сямейнай абраднасці, ад якой і распачнем наступным разам.

**Янка Леанчук,**
**Міхась Шаховіч**

(Працяг са стар. 1)

# Бацькі ў полі, а дзеці...

Як паінфармавала нас кляшчэлеўская інструктарша па справах дамашняй гаспадаркі Марыя Назарук, было запланавана значна больш дзяцінцаў, але ў некаторых школьных будынках не дазволіў весці іх „Санэпід". Што ж, для многіх вясковых дзяцей з-за гэтага немагчыма было запэўніць клапатлівую апеку на час цяжкай працы ў полі. І таму адзінай для іх пляцоўкай для гульняў быў панадворак, на якім ёсць усё: розныя машыны і сельскагаспадарчыя прылады, а да „сяброўства" куры, качкі, парасяткі. У такіх выпадках дзеці знаходзіліся на ласцы лёсу і на галаве бацькоў, якія працавалі ў „нервах", каб хаця іх малалеткі чаго-небудзь не начаўплі, не выцягнулі ад-куль-небудзь запалак, не пакалечыліся.

## ГМІНА КЛЯШЧЭЛІ НАЙЛЕПШАЯ

У мінулым годзе гмінны камітэт Нацыянальнага фонду аховы здароўя (НФОЗ) у Кляшчэлях заняў першае месца ў Беластоцкім ваяводстве. Другое месца выпала гміннаму камітэту НФОЗ у Орлі. У Кляшчэлеўскай гміне мінулагодні план збору грошай на гэты высокачалавечны фонд выканалі ў 163,6%. Сабрана 176 тысяч злотых, у тым ліку 72 тысячы злотых ад сялян. Ваяводскі камітэт НФОЗ у Беластоку прызнаў гміне кубак. У папярэднія гады гэтая гміна таксама атрымлівала ўзнагароды. У 1975 годзе перадавы кляшчэлеўскі гмінны камітэт НФОЗ быў узнагароджаны дыпломам і ў 1976 годзе флажком ВК НФОЗ.

Сёлета план збору грошай на НФОЗ у спамянутай гміне значна большы. Складае ён суму 224 тысячы злотых. Але ён паспяхова рэалізуецца. Як нас паінфармавала арганізатар ГК НФОЗ у Кляшчэлях — Валянціна Вярэмчук (яна вядзе гэтую справу ў гміне з таго часу, калі быў створаны гэты фонд), сяляне выканалі свой гадавы план перад Святам Адраджэння і агульны план быў рэалізаваны ў 93,8%, што ставіць Кляшчэлеўскую гміну на трэцім месцы. А да канца бягучага года, вядома, яшчэ шмат часу.

Варта адзначыць, што ваяводскі камітэт НФОЗ узнагародзіў працаўніцу ўпраўлення гміны ў Кляшчэлях — В. Вярэмчук ганаровым значком НФОЗ.

## КЛЯШЧЭЛЕЎСКАЯ БЕТАНЯРНЯ

...прадукуе будаўнічыя матэрыялы (пустакі), тратуарныя пліты і бетонныя кругі. Шасціасабовы рабочы калектыў узначальвае Мікалай Рафаіл. Работнікі бяруць павышаныя абавязацельствы. Бетанярскае прадпрыемства, якое з'яўляецца вочкам гміннай рады нарадовай, выпускае прадукцыю за 1 мільён 360 тысяч злотых у год. Разыходзіцца яна ў Кляшчэлеўскай і ў суседніх гмінах. Сяляне вельмі ахвотна купляюць пустакі на пабудову інвентарскіх будынкаў. Тратуарныя пліты і бетонныя кругі ў значнай меры выкарыстоўваюцца на вуліцы ў Кляшчэлях. На працягу апошніх чатырох гадоў перабудавана вуліцы: 1 Мая, Каляёвую і Белавежскую. Атрымалі яны асфальтаванае палатно або новы брук і новыя тратуары.

У мінулым годзе прадпрыемства выпрадукавала 45 800 тратуарных плітаў і 18 000 пустакоў і сёлета за першае паўгоддзе — 24 тысячы тратуарных плітаў, 13 тысяч пустакоў і 177 бетонных кругаў на пропусты двух розных дыяметраў, значна перавыконваючы планы.

Спамянутае кляшчэлеўскае прадпрыемства працуе зладжана, без малейшых простояў, не губляючы дарма часу. Дзякуючы яго прадукцыі з кожным годам павялічваецца колькасць тратуараў перш за ўсё ў вёсках. Між іншым, будуць пабудаваны тратуары ў прыгожай вёсцы Сухавольцы, што ў Кляшчэлеўскай гміне. Дзеля выгады жыхароў і дзеля таго, каб набыла яна новага знешняга блеску.

**(яц)**

# Леў Талстой



*Леў Талстой на вясковым кірмашы. 1909 год.*

(Працяг са стар. 3)

„Каб жыць сумленна, трэба рвацца, умешвацца, біцца, памыляцца, пачынаць і кідаць і зноў пачынаць і зноў кідаць, і вечна змагацца і траціць. А спакой — душэўная подласць".

Пачынаючы з 80-х гадоў Талстой думае абарваць усе сувязі з уласнасцю, з усім, што, на яго думку, перашкаджае жыць згодна з ісцінаю, „як жыве народ". Гэта прыводзіць да канфліктаў з сям'ёю. 10 лістапада 1910 года Талстой пакінуў Ясную Паляну. Па дарозе цяжка захварэў і на станцыі Астапава памёр. Пахаваны, дзе і завяшчаў, у Яснай Паляне, у сваім ляску, у кутку, які вельмі любіў.

Адзінокі магільны ўзгорак. Ні помніка, ні надпісу. Поўная гармонія. Вечнасць. Помнікам у ёй — 90 тамоў кніг вялікага рускага шукальніка праўды, які належыць да ўсяго чалавецтва. Паводле звестак ЮНЕСКО Талстой займае адно з першых месцаў сярод пісьменнікаў па колькасці моў свету, на якія перакладзены яго творы.

Вечнае мастацтва заўсёды сучаснае. Такім з'яўляецца для нас і Талстой. Чытаючы яго, адчуваем, што ён сярод нас, клапоціцца аб нашых справах, устрывожаны нашымі трывогамі. І мы разам з ім верым, што пераможа розум.

**Аляксей Сідаронак**

# Бяндзюга

(Працяг са стар. 1)

тут **Наравозкай,** а Нараўку да сутокі з Нарвай — **Копанню,** Нарвай называюць раку ад гэтай сутокі абедзвюх рэк уніз па цячэнню. У пісьмовых дакументах першае ўпамінанне пра Супруны адносіцца да 1750 года, тады ў гэтым месцы мелі абруб **Лаўрын Супрон і Міхалка Супрон.** Пра Бяндзюгу вядома, што ў 1784 годзе гэта быў засценак.

Як далёка сягае народная памяць, карміла і апранала тутэйшых людзей зусім не пясчаная ды няўраджайная зямелька, якой заўсёды было ў абрэз, вельмі мала, але рака. Не паспеў хлопец як належыцца ад зямлі адрасці, як ішоў ужо ў Бяндзюгу, на пляц, дзе ляжалі аграмадныя стусы звезенага з навакольных лясоў дрэва, і „качаў камлі ў раку", а там, часценька па пояс у студзёнай веснавой ці асенняй вадзе, „вязаў паса". Потым жа „станавіўся на пасе фрыцам-памочнікам старэйшых арэляў" і гналі яны плыт у Тыкоцін, а то і ў самы Гданьск. І няма чаго давацца дзіву, што вельмі рана спазнаваў хлапец усе таямніцы тадышняга нескамплікаванага жыцця, яго горыч, і разам са сваімі старэйшымі сябрамі спяшаўся асаладзіць яго квартай гарэлiцы ў карчме. Была гэтая пацяшальніца і ў Бяндзюзе, быў у ёй хітры і прагны на арэлевы грошы карчмар і былі мясцовыя героі — „саланіннікі", на якіх не было ні спосабу, ні ўправы. Калі з'яўляліся яны на парозе карчмы, карчмара пачынала трэсці ліхарадка, усе прысутныя заціхалі, бы мышы пад венікам, а той ды сёй з менш адважных як мага хутчэй падаваўся прэч за дзверы. Да самага досвітку сыпаліся там іскрыстыя анегдоты, звінелі шыбіны ў акенцах ад маладзецкіх песень і стагнаў гліняны ток пад прытупамі ў гонкіх танцах. Не, нам проста немагчыма ўявіць таго размаху, тае зухаватасці, з якой патрапілі гуляць малайцы-арэлі!..

Але незаўважальна праходзіла бурлівае юнацтва, наступала сталасць з яе клопатамі пра сям'ю, а там і старасць



*Кладка на рацэ Нарве вымагае і адвагі і спрыту ад таго, хто намерыцца перайсці па ёй на другі бераг.*



 

## МАЙСТАР НА ЎСЕ РУКІ

# Рыгор Хіліманюк

Рыгора Хіліманюка, што жыве ў вёсцы Грабавец у Дубіцкай гміне, па-вясковаму называюць Леанюк. Яму ўжо 70 год. Але ён на столькі не выглядае і не чуецца. Праўда, дакучае яму рука. Перасіліў яе працаю, найбольш сякераю, бо займаўся ён доўга будаўніцтвам драўляных будынкаў і даўжэйшы час працаваў пры зрубцы лесу.

У яго яшчэ многа жыццёвай энергіі. Шмат працуе на гаспадарцы і многа дапамагае свайму жанатаму сыну Паўлу. Аб тым, што тут жывуць добрыя гаспадары і працавітыя людзі, відаць па будынках. Прыгожы, мураваны, прасторны дом, напамінаючы вілу, з цэнтральным ацяпленнем, з кранамі і каналізацыяй, з чыстымі, прыгожа памаляванымі пакоямі і багатай мэбляй, з вялікай кухняй, у якой і тэлевізар і халадзільнік. Адным словам, высокі стандарт вясковага жыцця.



А жывёлагадоўчы будынак даўжынёю ў амаль 30 метраў. Панадворак абгароджаны, на ім стаіць нядаўна куплены малацільны агрэгат, далей вялікая клуня. Усюды ўзорны парадак. Пабыўшы ў хаце Хіліманюка, кожны можа пераканацца, што гаспадыня гэтага дома любіць чысціню, што мае пачуццё эстэтыкі.

Але вернемся да асобы Рыгора Хіліманюка, аб якім будзем пісаць як аб майстры на ўсе рукі. Жыццёвы шлях яго не быў лёгкі. Разам з бацькамі-бежанцамі ў 1914 годзе выехаў ён у Тамбоўскую губерню. У 1919 годзе вярнуўся ён з маці ў родную вёску Грабавец. Тут пасвіў кароў, памагаў гаспадарыць бацькам, пазней працаваў у лесе і майдане. Калі падрос, цікавіўся працай майстроў-будаўнікоў. Зойдзе, бывала, туды дзе яны будуюць, і прыглядаецца, дапамагае ім, а пасля хутка пераканаўся, што сам не горш гэта выконваў бы. Захацелася самому нешта зрабіць. Калі адзін з майстроў будаваў у яго дзядзькі будынак, Грыша дапамагаў яму два дні, а на трэці дзень ужо сам адважыўся палажыць дыля і палажыў яго добра, не горш майстра.

Праз нейкі час разышлася вестка па вёсцы, што Кузьмоў Грыша ставіць на сваім панадворку хлеў. Многія прыходзілі падзівіцца, як гэта нідзе не вучыўшыся будаўнічай прафесіі маладзенькі хлапец можа адважыцца ўзяцца за такую адказную справу. Але хто толькі не прыйшоў, кожны сказаў, што з Грышы будзе добры майстар. З гадамі „грабавецкі майстар" набываў усё больш і больш вопыту і збудаваў многа гаспадарчых будынкаў. Хатаў яго выканання ў розных вёсках стаіць, як сам ён гэта сцвярджае, не менш шасцідзесяці. Яшчэ зусім нядаўна, два гады таму назад, пабудаваў драўляную хату, а ў гэтым годзе нават начальнік Дубіцкай гміны прыязджаў яго прасіць, каб пабудаваў драўляны дом. Аднак Рыгору Хіліманюку ўжо зацяжка прыступаць да такіх прац. Даюць знаць аб сабе яго 70 год. Лягчэйшыя работы ён выконвае і далей. Вось, напрыклад, парабіў ён сабе вельмі добрыя вуллі. Займаецца пчалярствам. А пчалярская справа патрабуе таксама немалой умеласці. Ды розныя драбнейшыя плотніцкія работы ён сам сабе выконвае, у той час, калі іншыя ідуць прасіць спецыялістаў.

Асабліва ганарыцца ён адным фактам. У час першай сусветнай вайны снарадам скрывіла крыж на дубіцкай царкве. Выпраставаць яго ніхто не асмеліўся. Усе майстры баяліся залезці высока на купал, каб зрабіць там пункт падпоры і выканаць гэтую работу. Асмеліўся і выпраставаў крыж малады ў той час Рыгор Хіліманюк.

Тэкст і фота
**М. Хмялеўскага**

## ФАЛЬКЛОР

### БАЛАДА




*Зелененькі барвенцу, по садочку послався —*
*дзесь мой мілы на ўкраіні чэрэз людзі кланявсе,*
*дзесь мой мілы на ўкраіні чэрэз людзі кланявсе.*
*Што по тому барвенцу — ані ягад, ні цвету,*
*што по твоім кланянечку, колі самого нету,*
*што по твоім кланянечку, колі самого нету.*
*Вымецёна гулічэнька, мне по ёй ні ходзіці,*
*ест хорошы кавалеры, мне іх всех ні любіці,*
*ест хорошы кавалеры, мне іх всех ні любіці.*
*Одного полюбіла — міжы людзі пусціла,*
*Ой, Божэ ж мой мілюсенькі, ой, з кім я буду жыла?*
*Ой, Божэ ж мой мілюсенькі, ой, з кім я буду жыла?*

Ад Марыі Баравік, 1912 года нараджэння, і Марыі Чэрнякевіч, 1904 года нараджэння, вёска Гайдукоўшчына гм. Нарва, запісаў 19 мая 1978 г. Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.

## ці ведаеце, што...

...у нашай краіне ад 5 мая гэтага года распачалі сваю дзейнасць 38 554 солтысы.

...у мінулым годзе ў гміне Орля пачалі весці спецыялістычныя гаспадаркі наступныя сяляне: Яўгенія і Ян Жужаль з Міклашоў, Марыя і Сяргей Пыж са Спічак, Ніна і Ян Клін з Крывяціч, Вера і Пётр Стэпанюк з Малиннікаў. Усе яны спецыялізуюцца ў свінагадоўлі.

Малочнае быдла завялі ў сябе Галена і Антон Высакінскі з Вулькі Выганоўскай і ўбойнае быдла — Люба і Лявон Лемеш з Кашалёў і Валянціна і Міхал Адынец з Пашкоўшчыны.

Сёлета пачалі спецыялізавацца ў гадоўлі малочнага быдла Ганна Капачэўская са Шчытоў-Навадвораў і ўбойнага і адначасова малочнага быдла — Тамара і Мікалай Мураўскія з Орлі. У напрамку гадоўлі толькі ўбойнага быдла накіравалі свае гаспадаркі Пётр і Васіль Бяроза і Надзея і Рыгор Савіцкі — усе са Шчытоў-Навадвораў. Свіней у вялікім маштабе пачалі гадаваць Еўдакія і Фёдар Хурса з Кашалёў.

...сёлета ў верасні ў Скерневіцах адбудзецца Свята кветак, фруктаў і агародніны.

**(яц)**

## ПАЛОСКА ДЗЯДЗЬКІ КВАСА

### ДУБІЧАНКІ

*Як я ехаў з Нарвы ў Зніч,*
*Мне казалі ўдвох з Дубіч —*
*Не за дзякуй, не за грошы,*
*Што дзяўчаты ў іх харошы.*
*Над дзяўчат з Дубіч Царкоўных,*
*ўсе гавораць, няма роўных.*
*То здараецца так рэдка —*
*Кажда з іх — бы ў маі кветка.*
*Вось, у прыклад ўзяць, Галіна,*
*Так, бы ягада-маліна,*
*За Галінай маладой*
*Кавалераў ўецца рой.*
*Таксамусенька і Валя,*
*Бы малёваная краля,*
*Соня і абедзве Ганкі —*
*Як русалкі. Дубічанкі*
*Не за нізкі, не высокі*
*Чарнабровы, сінявокі,*
*Над усе чароўна Аня —*
*Вокал Ані кружыць Ваня,*
*Альбо чуленька Ларыса,*
*Што ўкляпалася ў Барыса,*
*Хахатунка душка Ірка,*
*З розуму што зводзіць Мірка.*
*Ці цнатлівая Бэата,*
*Што ўлюбілася ў паэта,*
*А яе паэт — то Міша*
*Для Бэаты вершы піша,*
*Ружаю цвіце Наташа,*
*Па ёй сохне — чахне Саша,*
*Саша мучыцца дарма —*
*У Наташы ёсць Фама,*
*А залётніца Марылька*
*Мае нарачоных кілька,*
*Ёй ўсе кажуць, схамяніся,*
*Можаш страціць ўсіх, Марыся.*
*Так, як зорка, наша Лёня*
*У настрою добрым сёння,*
*Ёй дазволіў бацька й маці*
*З мілым Грыцкам шлюб узяці,*
*А мілюсенькая Кася*
*У двох улюбілась — ў Стася й Яся,*
*Але любіць Стась Івонку,*
*А Ясь любіць самагонку,*
*А прылюдная Івонка*
*Будзе Стасю добра жонка,*
*Сімпатычна Вераніка —*
*Не малая й не вяліка,*
*Спераду і ззаду хвацка,*
*А Крыстына! З цацкаў-цацка...*
*Так абодва мне казалі,*
*Дубічанак захвалялі.*
*Дубічанкі-надпушчанкі,*
*Сінявокі падляшанкі*
*Як бы мне пабачыць вас*
*Краём вока...*

**Дзядзька Квас**

не за гарамі з вечнымі рэўматычнымі болямі ў нагах ад вільгаці ды холаду. І тады больш часу адводзілі „бендзюры" сваім гаспадаркам. Разводзілі пчолаў у „асовых" вуллях, гэта значыць вуллях з камля старой дуплястай асіны. Рыбачылі, плаваючы ў доўбанках па рацэ, бо калісьці не было тут такога мужчыны, які б не меў свой „чавон". І перадавалі ўнукам тое, што спасціглі за сваё працавітае і бурлівае жыццё і што пачулі ад сваіх дзядоў. А перадаваць заўсёды было што. На старых могілках у асеннія ночы плакала дзіця. Відаць, пахавалі яго няхрышчаным. Каб пакутуючая душачка супакоілася, трэба было сказаць: „Адам" або „Ева". Тады яно ўжо мела сваё імя і супакойвалася. Тутэйшыя людзі нядаўна сталі праваслаўнымі, у палове мінулага стагоддзя былі яны уніятамі, і яшчэ гадоў семдзесят таму назад некаторыя бабулькі ды дзядкі не патрапілі па-праваслаўнаму перахрысціцца. Хоць у бежанства не ўсе выязджалі, многія адсядзелі час фронту па багнах ды лясах, але тыя, хто пабываў у глыбі Расіі, перажыў вогненны 1917 год і Грамадзянскую вайну, а потым вярнуўся ў родныя ваколіцы, унеслі сюды баявы, рэвалюцыйны дух. Знайшла тут падтрымку дзейнасць Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі, а потым Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, Грамады і ТБШ, а калі на пераломе дваццатых і трыццатых гадоў на рацэ Нарве ўспыхнула забастоўка арэляў, актыўны ўдзел у ёй прынялі і бяндзюраўцы.

У часе нямецкай акупацыі ў суседняй Лядскай пушчы, што прасціраецца насупраць Бяндзюгі і Супруноў за ракою Нарвай, мелі свае базы савецкія партызаны. Блізкую сувязь з імі ўтрымоўвала шэраг тутэйшых жыхароў, дапамагалі яны народным мсціўцам у барацьбе з фашыстамі, асабліва **Канстанцін, Уладзімір і Антон Саковічы** вельмі актыўна супрацоўнічалі з партызанскім рухам.

Выдатны ўклад у пашырэнне асветы ў гэтых ваколіцах унёс народны настаўнік Іван Грыгаровіч, цяпер ужо 87-гадовы пенсіянер. Родам з Ясёвага Груда, ён прайшоў доўгі і небяспечны шлях удзельніка Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі і Грамадзянскай вайны, калі знаходзіўся ў бежанцах. Настаўнікам пачаў працаваць толькі ў 1939 годзе, ужо пры Савецкай уладзе прыняў актыўны ўдзел у арганізаванні школы ў Бяндзюзе. Вучыў патаемна і ў часе гітлераўскай акупацыі. Адразу пасля вызвалення заняўся заснаваннем школы і правучыў у ёй нязменным кіраўніком аж да 1964 года. Асабліва клапаціўся пра належнае навучанне роднай беларускай мовы, у 1963 годзе ўдзельнічаў на курсе настаўнікаў беларускай мовы ў Мінску. Шануюць яго людзі за добрае сэрца, за ахвярную працу.

Спакойна і ціха плыве жыццё ва ўсіх чатырох частках Бяндзюгі. Шмат хто з маладых падаўся ў Беласток і іншыя гарады, шэраг закончыла сярэднія і вышэйшыя школы, некаторыя даязджаюць да працы ў Нараўцы, да будовы Семяноўскага вадасховішча. Але цяпер рака менш вабіць, хіба што ў вольны час нехта пойдзе з вудкамі на **Аляксандраву, Крывэцку** ямы ці іншыя нараўскія завадзі. Асноўную ўвагу адводзяць сельскай гаспадарцы. І ўсе яны: **Анхімы, Барташэвічы, Грыгаровічы, Кабашы, Крышэні, Кузьмы, Міруці, Саковічы, Смолкі, Супруны, Самойлікі, Ціванюкі** дбаюць і пра ўраджаі на палетках і пра гадоўлю, асабліва малочнага быдла і свіней. А ўзорам для ўсіх з'яўляецца **Сяргей Ясвіловіч,** які мае дасканала арганізаваную гаспадарку, апрацоўвае шмат зямлі, вядзе вялікую гадоўлю.

І калі пазіраеш са стромкага пагорка, на якім стаіць Бяндзюга, на панарвянскую даліну, явяцца разгалістыя дубы на ёй, што калісьці стаялі па грудках, пакручастая Нараўка, якая не спяшалася ўліць свае воды ў Нарву і ўпадала ў яе недзе каля **Кургана,** каля вёсак Рыбакі і Гайдукоўшчына, але людзі пракапалі ёй новае логава і яна пакарылася ім, і чуецца ўяўнае водгулле арэльскай песні...

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

# Сапсаваны шлагбаум

Шлагбаум быў новенькі, толькі што збудаваны. Аднак нягледзячы на гэта, ён не працаваў — сапсаваны быў, як кажуць, ад нараджэння. З паўгадзіны важдаўся каля яго пуцявы абходчык, спрабуючы адрамантаваць.

— Неяк наладзіцца, — сказаў начальнік і паляпаў чыгуначніка па плячы. — Жадаю поспеху!

Начальнік сеў у аўтамабіль і толькі яго бачылі.

Праз некалькі дзён пачуўся тэлефонны званок. Чыгуначнік падняў трубку.

— Ну як? — пачуў голас начальніка. — Працуе шлагбаум?

— Дзе там, пан начальнік. Столькі клопатаў ён нарабіў, што не абярэшся. Машыны сігналяць як апантаныя!

— Чаму?

— Не могуць ніяк падняць шлагбаум, і таму праезд заўсёды закрыты.

— З аднаго боку гэта дрэнна, — адгукнуўся, памаўчаўшы хвіліну, начальнік. — Але з другога і няблага, бо ніводзін аўтамабіль не трапіць пад цягнік.

— Пан начальнік...

— Што?

— Калі гаварыць пра цягнік, то працую я тут ужо другі тыдзень, а яшчэ ні разу не бачыў цягніка.

— Дык шлагбаум закрыты толькі для аўтамабіляў?

— Так.

— Можа чыгунку рамантуюць?

— Пан начальнік, чыгункі тут увогуле няма!

— Як гэта няма?

— Ну так, няма. Я сам некалькі разоў правяраў.

— З аднаго боку гэта дрэнна, — адгукнуўся, памаўчаўшы хвіліну, начальнік. — Але з другога і няблага, бо ніякі цягнік не наскочыць на аўтамабіль.

— Вось іменна! Бо шлагбаум жа закрыты! Адно мучэнне з гэтым шлагбаумам.

— Не хвалюйцеся, — закончыў начальнік. — Падумаем.

Праз паўгадзіны начальнік званіў вышэйстаячай інстанцыі.

— Мучэнне з гэтым шлагбаумам, — далажыў. — Сапсаваўся і ніяк яго не падняць.

— Дзе?

— На тым новым ахоўваемым пераездзе.

— Заўсёды быў ворагам шлагбаумаў, — незадаволена прамовіў вышэйстаячы. — Ніякай бяспекі. Што з таго, што ёсць шлагбаум? Чыгуначнік засне, забудзецца яго апусціць і недалёка да бяды.

— Правільна! — згадзіўся начальнік.

Праз некалькі дзён прыехала спецыяльная брыгада і разабрала сапсаваны шлагбаум.

Адразу ж пачалося будаўніцтва пуцеправода.

**Раман Маеўскі**



**Ён гаварыў: тормаз быў вынайдзены, безумоўна, раней за кола.**

# НІЎКА



## ТРЫМАЙЦЕ ВУХА!
*Каму прысвячаецца-той здагадаецца*

### ЗДАРЭННЕ Ў КУПЭ

Мне нагадала дні вясны
Аднойчы восень залатая...
Мы ехалі ў купэ адны —
Я і дзяўчына маладая.
Я ў наступ рушыў напрасцяк —
Абняў танклявую за плечы
І стаў казаць,
што халасцяк,
Што вельмі-вельмі
рад сустрэчы.
Цяплеў пагляд яе...
Ды вось
Я ў шыбу глянуў
выпадкова —
І, бы спалохаўся кагось,
Не змог больш вымавіць
ні слова
А ў сэрцы
шастаў лістабой,
Лістота з шумам ападала
І ўсю дарогу:
— Што з табой? —
Дзяўчына
здзіўлена пытала.
Было прызнацца цяжка мне,
Што не аб ёй
штодзённа мару,
Што я спалохаўся ў акне
Свайго раздвоенага твару.

**Уладзімір Скарынкін**

### КАМУ ШТО

— Ну, як хлопцы, закончылі? — звярнуўся да будаўнікоў брыгадзір.

— Яшчэ паўбутэлькі засталося, — адказаў адзін з іх.

З „Весніка Задрыпоніі“

### НА СТАЛЬНЫХ МАГІСТРАЛЯХ

Прагрэсіўны метад фармавання цягнікоў выпрабоўваецца на станцыі Задрыпанка. Замест дызеляў, якія спажываюць паліва, у галаве саставу ўстанаўліваецца вагон-рэстаран, які працуе на ўнутраных рэзервах.

## ГУМАР З БАРАДОЮ

### АВАРЫЯ

Наш дзядуля недабачвае. Нейк узяў ён у рукі газету, а ўнук бачыць, што дзед яе разглядае дагары, і пытае:

— Ну што там, дзеду, нова ў газеце?

— Ды нічога, унучку, недзе на чыгунцы аварыя здарылася. Вось бачыш, у газеце паравоз дагары калёсамі ляжыць.

*— А між іншым, цягнік ужо даўно ідзе!*

### УЧОРА І СЁННЯ

У вагон цягніка на поўным хаду ўскаквае малады задрыпанец з невялікім чамаданам і, зняможаны, сядае на падлогу.

— Не тая сёння моладзь, — уздыхае пажылы пасажыр, — помню, у яго гады я бег за кур'ерскім цэлых паўкіламетра з кубкам кавы ў руцэ і, дагнаўшы цягнік, быў свежы, як кветачка.

— Вы памыляецеся, — засупярэчыў, пераводзячы дух, малады задрыпанец. — Я спазніўся на гэты цягнік яшчэ ўчора вечарам.

### ЦЯГНІК БЯСКОНЦЫ

Ля закрытага шлагбаума сабраўся вялікі натоўп. Ён нецярплівіўся.

— Ды ці будзе наогул калі-небудзь канец гэтаму цягніку? — раздражнена ўсклікнуў адзін з чакаўшых.

— Канца не будзе, — сказаў Кастусь. — Я толькі што даведаўся, што на станцыі забылі прычапіць апошні вагон...

### ШЧАСЛІВЫ

Старшыня Аглаблёвіч пасадзіў жонку на поезд. Доўга і закахана пазіраў у след скораму, потым весела пакрочыў па вуліцы.

— Ну, вось, — сказаў сам сабе, — цяпер вясельны пярсцёнак схаваю, адпрасую нагавіцы, прышыю гузікі і ніхто не пазнае, што я жанаты.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Англійскі адмірал і епіскап адчувалі адзін да другога вострую варожасць і скарыстоўвалі кожную нагоду, каб паздзеквацца адзін з другога. Аднойчы яны сутыкнуліся на вакзале.

— Скажыце, дзяжурны, — тоўсты епіскап падслепавата прыжмурыўся і тыцнуў пальцам ва ўвешаныя ордэнамі грудзі адмірала, — калі адыходзіць цягнік у Дуўр?

— Праз дванаццаць мінут, мадам, — адказаў адмірал, — але ці варта вам падарожнічаць у вашым стане?

*

На франка-іспанскай граніцы ў купэ вагона ўваходзіць таможнік.

— Каньяк? Тытунь? Наркотыкі? — пытае ён.

— Кубачак кавы, калі ласка, — адказвае пасажыр.

З „Весніка Задрыпоніі“

### 2×2=5

У Задрыпанцы адкрылася школа для разумова адсталых з матэматычным ухілам.





*Без слоў.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Людмілы і Міры Артэмюк з Парцава, Аліны Юзвюк з Пасечнік Малых, Веры Мацкевіч са Старога Беразова змяшчаем песню*

### Popołudnie z Tobą

**słowa: Andrzej Jastrzębiec-Kozłowski**
**muzyka: Andrzej Zieliński**

Kiedy świat był nieco młodszy,
więcej było dni słonecznych,
każdy uśmiech, co nas łączył,
zapisywał się w pamięci.

Dłużej trwała każda chwila
wypełniona magią spojrzeń,
czas nie śpiesząc się przemijał,
było śpiewnie, było dobrze.

Popołudnie z tobą — barwna pora dnia,
w błękit wpięty obłok, w myślach jakiś ład,
popołudnie z tobą — pora zwykłych snów,
wszystko mamy obok, cały świat jest tu.

Kiedy świat był nieco młodszy,
wszystkie bajki były prawdą,
łatwiej się patrzyło w oczy —
a to było tak niedawno...

A to było jeszcze wczoraj,
tli się między nami jeszcze,
tak nietrudno to przywołać
jednym słowem, jednym gestem.

Popołudnie z tobą — czas na wspomnień szept
nad spokojną wodą dwu złączonych rzek,
popołudnie z tobą — kolorowy film,
serca nam pomogą wrócić do tych chwil.

## Курёзы

### МЛЕЧНЫ ШЛЯХ — У РОЗНІЦУ

Не так даўно ў прыгарадзе Лос-Анжэлеса Ван-Найсе адкрылася маклерская кантора „Юнайтэд плэнітс комішн“ — даслоўна: „Аб'яднаны камісійны гандаль планетамі“. Гэта не ўрывак з фантастычнага апавядання, а рэальны факт, прычым назва прадпрыемства дакладна адлюстроўвае яго сутнасць: кантора сапраўды займаецца продажам участкаў — „у поўную і непадзельную ўласнасць, непарушнасць гарантаваная“ — на паверхні Венеры, Марса, нават Сонца, ды што Сонца — на любым касмічным аб'екце... Млечнага Шляху. Цэны памяркоўныя: любы ўчастак каштуе чатыры долары. Як заявіў прадстаўнікам друку заснавальнік канторы Рычард Стар („Стар“ — значыць „зорка“; Рычард цвердзіць, што гэта яго сапраўднае прозвішча), ад кліентуры няма адбою: штодзённа паступае ад 25 да 50 заказаў. Нічога дзіўнага: у бліжэйшы неаглядны перыяд „непарушнасць“ Млечнага Шляху сапраўды „гарантаваная“.

## Між намі




**Калі ў грамадскім транспарце вас прыціснуць да інтэлігентнага чалавека і вам захочацца адціснуць яму нагу, дык пастарайцеся зрабіць гэта не груба, а тонка і далікатна. Грубасць інтэлігентнаму чалавеку можа не спадабацца. Спачатку наском свайго чаравіка лёгенька прыцісніце яго ступню, быццам папярэджваючы і даючы яму магчымасць падрыхтавацца. І толькі пасля гэтага адціскайце, паступова пераносячы на яго нагу цяжар свайго цела.**

**З малаінтэлігентнымі людзьмі лепш не звязвацца.**